А 11 Аўсяннікава, Т.П.

Сумоўе: дзённік. Вершы / Тамара Аўсяннікава. – Магілёў. – 2020. – 72 с.

У кнігу ўвайшлі дзённікавыя запісы вандроўкі ў Швецыю (16.10.2019 – 16.11.2019) і вершы, напісаныя ў Балтыйскім Цэнтры пісьменнікаў і перакладчыкаў.

# СУСТРЭЧА З МОРАМ

Мора я люблю так моцна, як вершы. Яно наталяе маё сэрца і душу, лашчыць зрок. З морам сустрэч у мяне было не больш дзесяці, але ж мела шчасце бачыць чатыры: Чорнае, Белае, Паўночнае і цяпер – Балтыйскае. Адзін на адзін давялося быць толькі з Белым і Балтыйскім. Белае мора – Лель. Балтыйскае – Мізгір.

На зыходзе кастрычнік. Турыстаў практычна няма. Восень на Готландзе яшчэ красуе. Сонца рэдкі госць, ды яркія фарбы цешаць вока.

Ты стаіш перад морам, глядзіш, як хвалі набягаюць на бераг, як разбіваюцца аб камяні-валуны, сузіраеш яго шэра-сінюю глыбіню і адчуваеш сілу, якая дадзена гэтай воднай стыхіі. Ты перад ім маленькі і безабаронны, яно пужае цябе і прыцягвае. Мора тоіць у сабе цэлы свет – адметны, прыгожы і трагічны.

25.10.2019.



Шыльда “Baltic Centre”



Памяшканне “Baltic Centre”

# ДЗЁННІК

## *Вісбю – Готланд*

***16 кастрычніка 2019***

Я ў Швецыі! На востраве Готланд. У горадзе Вісбю. Прапанова паездкі была для мяне нечаканай і прыемнай. І ўсё ж я вагалася, палохалі дарога і мова. Дарогу пераадолела. Сяджу ў сваім пакоі Балтыйскага Цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, пішу гэты тэкст і раз-пораз гляджу ў акно. Перада мною кафедральны сабор святой Марыі і мора. Горад мае сваю адметную архітэктуру і клімат.

Сустрэлі ветліва і сардэчна. Патрык Мускас забраў з аэрапорта. Лена Пастэрнак пазнаёміла з Цэнтрам, яна гаворыць па-руску. Патрык – не. У гэтым заездзе пісьменнікі і перакладчыкі з Літвы, Швецыі, Нарвегіі, Францыі, Фінляндыі, Поль-

шчы, Украіны – усяго 10 чалавек. Цэнтр разлічаны на 11. Заезд адбываецца ў розныя дні. І час знаходжання ў кожнага розны.

У маім прыездзе сюды бачу нейкую містыку, ці мо склаліся так абставіны. Прысутнічае сакральная лічба сем: мне споўнілася ў гэтым годзе 70, я ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў – 7 гадоў, уступіла 12.04. (1+2+4=7), прыезд і ад'езд адбываецца 16 (1+6=7). Нумар новага пашпарта і нумар візы таксама ў суме даюць лічбу сем. І пакой мне дастаўся № 7. Пакой абсталяваны проста, але ёсць усё неабходнае. Вокны не пластыкавыя, а драўляныя.

***17 кастрычніка 2019***

Прайшоў першы поўнавартасны дзень ў Вісбю. Радуе ціша. Дзень быў доўгім. Знаёмілася з незнаёмым.

Як начавалася на новым месцы?

Пасцеля дужа мяккая, прыйшлося адказацца ад матраца. Спала першую палову ночы неспакойна, кожныя паўгадзіны гадзіннік, што на саборы, гучна нагадваў аб сабе і часе. Раніцай падключылася да інтэрнэту і паведаміла блізкім, што на месцы і ўсё добра. Буду набірацца ўражанняў, каб працаваць.

Пазнаёмілася з паэткай і перакладчыцай з Кіева Катэрынай Дэўдэра. Маладая, 27 гадоў. Гаварылі на родных мовах і добра разумелі адна адну. З Катэрынай схадзілі ў краму, яна дапамагла мне купіць неабходныя прадукты.

Зрабіла прагулку да мора, не зблудзіла. Мне вельмі хацелася пабыць каля мора, але ўжо і не спадзявалася. Радасць вялікая. Людзі сустракаліся рэдка. Апранутыя проста (а я перажывала – у чым ехаць). Некаторыя віталіся. Заўтра буду знаёміцца з іншымі месцамі горада.

***18 кастрычніка 2019***

У 9 гадзін зрабіла прагулку да мора, але другім шляхам. Розніца ў часе – адна гадзіна. Люблю мора ў любую пару года. Уздоўж узбярэжжа – дзоты. Ландшафт не кідкі, але для мяне прыемны. І ад сузірання на душы лёгка.

Уражвае гарадская сцяна. Яе працягласць 3400 метраў, мае 35 башняў. Гэтай сцяною жыхары заявілі аб сваёй самастойнасці. І каб трапіць у горад, трэба было плаціць падатак. Гэтакая дзяржава ў дзяржаве.

Сустрэлася на кухні з пісьменніцамі з Нарвегіі, Швецыі і Украіны. Катэрына частавала налісні-камі і гарбатай, была талмачом. Да маёй без'языкасці аднесліся з паразуменнем, заахвочвалі ґаварыць. Карыстаючыся англійскімі і нямецкімі словамі, я нават змагла даць

нейкую інфармацыю пра сябе. Linda May і Kirsi Blomberg пачулі, як гучыць беларуская і ўкраінская мовы праз песню. Англійскую мову трэба вучыць, асабліва маладым. І не толькі. Бо калі мова твой асноўны працоўны інструмент, і ты трапляеш у асяродак, дзе не можаш нічога сказаць, адчуванне, скажу я вам, не з лепшых. Змясціла ў фэйсбуку некалькі здымкаў.

***19 кастрычніка 2019***

Пасля снедання зноў знаёмства з горадам. Новыя завулачкі, новыя ўражанні. Надвор’е спрыяе. Цёпла. Нягледзячы на тое, што кожны дзень туман і сонца няма, фарбы яркія – восень каляровая і будынкі таксама. Мора сур’ёзнае, таямнічае, адчуваецца яго сіла. І ты не можаш стрымаць свайго захаплення перад яго вялікасцю і трагічнасцю.

Пасля абеду была прагулка ў гандлёвы цэнтр, які за сцяною. Гэта ўжо сучасны горад. Тут і апранаюцца па-іншаму.

Сёння Кірсі Бломберг са Швецыі запрасіла ўсіх на вячэру, частавала цудоўным рыбным супам, але не такім, да якога мы прывыклі. Акрамя морапрадуктаў (сёмга, крэветкі, мідзіі) былі скарыстаны капуста свежая, фенхель, таматы чылі, розныя незнаёмыя мне прыправы, вяршкі. І белае віно пілі. Гаварылі. Я слухала, Катэрына крыху перакладала.

***20 кастрычніка 2019***

Спала неспакойна. Прачнулася ў пяць гадзін. Амаль цэлы дзень ішоў дождж. Таму пасля снедання адразу пачала знаёмства з бібліятэкай Цэнтра. Беларуская літаратура прадстаўлена не так шырока, як іншыя. Зай-

мае дзве невялікія palічкі: слоўнікі, шэсць тамоў з поўнага збору твораў у 14 тамах Васіля Быкава і некалькі яго асобных выданняў, "Імёны свабоды" Уладзіміра Арлова, некалькі асобнікаў кнігі "Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён: папулярныя нарысы" (складальнікі: Лявон Баршчэўскі, Пятро Васючэнка, Міхась Тычына). Прозу прадстаўляюць Франц Сіўко "Дзень бубна", Барыс Пятровіч "Шчасце быць...", Сяргей Дубавец "Вострая Брама", Альгерд Бахарэвіч "Шабаны: гісторыя аднаго знікнення" і "Белая муха, забойца мужчын". Паэзію – Анатоль Івашчанка "ВершNick", Анатоль Сыс "Лён", Андрэй Хадановіч "Сто лі100ў на tut.by" і "бэрЛібрЫ: гісторыя ў чатырох фільмах", Валянціна Аксак "Ружоўніца", Юлія Цімафеева "Кніга памылак". Ёсць хрэстаматыя для дзяцей малодшага ўзросту "Крынічка". Пазнаёмілася з вершамі Юліі

Цімафееевай. Спадабаліся.

Пагартала кнігу водгукаў. Знайшла беларусаў, але не ўсе, відаць, пакінулі свае пажаданні. Найпершы ад Уладзіміра Някляева. Ёсць ад Міколы Яцкова. У яго самы прыгожы почырк ва ўсёй кнізе.

Катэрына Дэўдэра дала пачытаць сваю кніжку вершаў “Листи до майстра” (Київ: АРТ Видавництво “Небо”, 2019. – 80 с.), наклад 500 асобнікаў. Аформлена цікава. Чытаю павольна, бо трэба прызвычаіцца да маўлення. Зразумела практычна ўсё, але ёсць словы, якія патрабуюць тлумачэння.

Пасля абеду дождж перастаў імжыць. Я прадоўжыла знаёмства з горадам і размову з морам.

Праверыла пошту, перакінулася словамі ў скайпе з дачкой Алесяй, змясціла ў фэйсбуку некалькі фота-

здымкаў і пішу гэтыя радкі. Вось ужо і 23 гадзіны па мясцовым часе. Так што good-bye!

***21-22 кастрычніка 2019***

Прачытала кнігу паэзіі Катэрыны. Напісала ёй ліст аб сваіх уражаннях. Кожны дзень – знаёмства з горадам. Горад унутры сцяны – сярэдневяковы, ахоўваецца ЮНЕСКА. Тут жыхароў мала. У гэты час і турыстаў мала. Мясцовасць гарыстая, вулачкі вузкія, дарогі брукаваныя, лесвіца на 70 прыступак. Для маіх ног цяжкавата.

Што кінулася ў вочы. Першае – цішыня. Такой цішыні я даўно не чула. Тут можна быць практычна ў адзіноце. Людзі сустракаюцца рэдка, гулу машын не чуваць, бо гарадскі транспарт не ходзіць. Іншы раз праедзе чалавек на ўласнай машыне ці на ровары. Ніхто нікуды не спя-

шаецца. Сустракаюцца маладыя мужчыны з доўгімі рыжымі барадамі і з чорнымі, але радзей. Сталыя мужчыны гладка паголеныя. Жанчыны не карыстаюцца касметыкай, натуральныя. Уздоўж мора мясцовыя жыхары шпацыруюць па-спартыўнаму, зрэдку з палкамі скандынаўскімі, або бегаюць; выгульваюць сабак, якія на мінакоў не брэшуць. Гаспадары за сваімі гадаванцамі прыбіраюць.

Другое – сціпласць у адзенні: проста, па-спартыўнаму.

Трацяе – пры сустрэчы многія вітаюцца. Дарэчы, і ў Галандыі ў час прагулак жыхары таксама вітаюцца. Мне гэта вельмі блізка. На маёй радзіме, Лоеўшчыне, у часы майго дзяцінства і юнацтва ўсе з усімі віталіся. Мужчыны не карысталіся брыдкімі словамі ў прысутнасці жанчын і дзяцей. Я не чула іх ні ад бацькі, ні потым – ад мужа. Сёння грубасць,

непавага ў паводзінах і словах становіцца нормай. Больш за ўсё мяне турбуе моладзь, іх ненарматыўная лексіка. Я не прымаю абсцэннай лексікі ў паўсядзённым жыцці, тым больш – у паэзіі.

***23 кастрычніка 2019***

Сёння з Катэрынай і Jonё Ramnytё з Літвы наведалі музей гісторыі Вісбю. Вісбю – галоўны горад вострава Готланд. Ёна добра гаворыць па-руску. Яна чытала інфармацыю аб экспанатах і перакладала. Так што мне пашанцавала. Потым наведалі з ёю батанічны сад. Яшчэ красуюць восеньскія фарбы. Многа цікавых дрэў. Стамілася.

У абед Кірсі Бломберг частавала супам. Кірсі самая гаспадарлівая і актыўная з нас: займаецца на трэнажорах, наведвае басейн і саўну, працуе над кнігай паэзіі. Я папрасіла

Кірсі пачытаць вершы на яе роднай фінскай мове. Музыка мовы трымаецца на зычных гуках. Найбольш актыўны гук “р”.

***24 кастрычніка 2019***

Устала позна. Амаль нічога не зрабіла, толькі пакупкі. Да мора не хадзіла. Актыўнасць мая зменшылася.

Працавала над інтэрв’ю: адказвала на пытанні. Перачытаю і адпраўлю Таццяне Барысік. Намагаюся палепшыць свой англійскі, справа пасоўваецца марудна.

Дзякуй Богу і зямлі гэтай – сёння завяршыла адзін вершык, пачын зроблены. Не было іх амаль год. Многія, хто тут адпачывае, гаварылі, што першы тыдзень нічога не пішацца. Трэба набрацца ўражанняў. І ў мяне так атрымалася.

***25 кастрычніка 2019***

За ноч адпачыла. Сходзіла да мора, пасядзела на беразе, паразмаўляла з ім, умовы спрыяльныя, ніхто не перашкаджае. Наведала батанічны сад, там хораша. Зрабіла пакупкі, сёння вячэра ў складчыну.

На кухні сустрэлася з Ленаю Пастэрнак, пагаварылі за жыццё, яна дапамагла перакласці адзін рэцэпт супу ад Лінды з Нарвегіі.

**2 – 3 ст. л.** смятанкавага масла
**1** цыбуліна
**100 гр** вэнджанага ласося або бекону
**1** пучок свежага чабору або 3 ч. л. сушанага
**4 – 6** бульбін, **2** банкі мідзій
Малако, вяршкі

Вярнулася ў пакой, перанесла фотаздымкі з фотаапарата ў камп’ютар, кінула некалькі ў фэйсбук. Напісала замалёўку пра мора. Пайду на

агульную вячэру.

Усё прайшло цудоўна: лепш, вясялей, чым папярэдні раз. І стол быў багаты, нават дужа. Адвяла душу ласосевымі катлетамі, якія гатаваў Іohan Іonason са Стакгольма. Шырокай душы чалавек.

Былі дранікі, розныя вострыя стравы, соўсы, ікра ў смятане (для мяне лепш без смятаны). А катлеты цудоўныя. Рыба бярэцца свежая, для смаку дадаецца вэнджаная. Рыбу здрабняюць, соляць, перамешваюць, даюць крыху пастаяць, потым фармуюць катлеты і смажаць. Усё проста.

***26 кастрычніка 2019***

Усю ноч вецер стукаў у вокны, ішоў дождж і днём не сціхаў. Ненадоўга неба і мора праясняліся, потым зноў ішоў дождж.  Нікуды не

хадзіла.

Напісала адзін вершык. Вучыла англійскія словы. Пагаварыла з Лідзіяй Андрэеўнай па скайпе.

Вечарам сустрэлася з Ёнай. Яна запісала мне некалькі англійскіх фраз. Абмеркавалі пісьменніцкія (і не толькі) справы і разышліся. Дапрацавала першы вершых і напісала яшчэ адзін. Вось і дзень скончыўся.

***27 кастрычніка 2019***

Розніца ў часе ўжо 2 гадзіны. Ідзе дождж, вецер. Зрэдку праясняецца. І я змагла выбрацца да мора. Парасон брала, але не спатрэбіўся.

Мора прыгожае – вецер гоніць хвалі, уздымае іх. Зрабіла некалькі здымкаў, але яны не перадаюць рэальнай прыгажосці мора.

Каля мора холадна. У горадзе вецер не такі моцны. Адносна цёпла.

Працавала над тэкстамі ўжо напісанымі. Атрымаўся адзін вершык і чатырохрадкоўе. Вечарам глядзелі фільм на шведскай мове з англійскімі цітрамі “Крик и шепот” Бергмана. Уразіў.

***28 кастрычніка 2019***

Тэмпература панізілася, туману няма. Ясна. Выбліснула сонца і схавалася. Загрузіла ў пральную машыну адзенне. Лена Пастэрнак дапамагла разабрацца. Прагулялася да мора, пакуль машына працавала. Трэба ўжо цёпла апранацца, вецер халодны. Мне гэта не перашкаджае адпачываць. Зрабіла некалькі здымкаў. Вельмі ўдзячна Святлане Калядка за фотаапарат, без якога адпачынак быў бы не такім яркім.

Павесіла адзенне сушыцца, вы-

піла кавы. Працавала над вершам. Пагаварыла з Юліяй Іваніцкай.

Узялася чытаць кнігу “Беларуская літаратура і свет: ад эпохі рамантызму да нашых дзён: папулярныя нарысы”. Карысная кніга. Алесь Разанаў падаецца ў раздзеле “Шляхі мадэрнізму ў XX стагоддзі” у кантэксце еўрапейскай традыцыі. Яму ў кнізе адведзена некалькі старонак. Для параўнання: Нілу Гілевічу ў раздзеле “Змена квадры ў беларускай літаратуры: канец 1980-х – пачатак 1990-х гадоў” менш старонкі.

***29 кастрычніка 2019***

Цікава назіраць за небам. Яно вельмі align рознае, але фотаапарат не перадае ўсёй яго прыгажосці. Зімна. Пераапранулася ў цёплае адзенне. Працавала над тэкстамі сяброў “Святліцы”. Чытала звесткі аб Ніне

Янсанэ, сястры Сяргея Панізніка, і яе пераклады (Панізнік даслаў). Добрыя пераклады, багатая мова.

З пісьменнікамі сустракаемся на кухні. Катэрыну бачу рэдка. Я часцей з Ёнаю перасякаюся. Сёння вячэралі ўтрох: Ёна, Катэрына і я. Катэрына размаўляе з Ёнаю на англійскай мове, са мною – на ўкраінскай. Я з Ёнаю – на рускай, а з Катэрынаю – на беларускай. Я запыталася ў Катэрыны, ці гаворыць яна калі па-руску. Пачула ў адказ, што калі рускія будуць з ёю гаварыць на ўкраінскай мове, тады і яна з імі можа пагаварыць па-расейску. Адносіны яе да рускіх перайшлі на мову і на пісьменнікаў. Калі зайшла размова пра Шаўчэнку і я сказала, што выкупіць яго з прыгону дапамаглі Брулоў і Жукоўскі, Катэрына незадаволена заўважыла, што рускія ўвесь час сабе прыпісваюць, што яны і тых абаранілі і гэтых прыгрэлі.

Няёмкую сітуацыю дапамагла згладзіць інфармацыя аб тым, што ў Магілёве ёсць помнік паэту. Мы пачалі дэкламаваць вершы Тараса Шаўчэнкі і спяваць песні на яго словы.

Вечарам узгадала сваіх дачушак, калі яны былі маленькімі і напісала два верлібры. Мабыць, сумую...

### *30 кастрычніка 2019*

Дзень выдаўся цёплы, сонечны. Першы раз спатрэбіліся сонечныя акуляры. Пераапранулася ў лёгкую куртку. Знаёмілася з другою часткаю горада. На зваротнай дарозе наведала гандлёвы цэнтр. Тое-сёе памерала, але не купіла. Трэба падумаць.

Схадзіла ў саўну. Пагаварыла з дачкой Алесяй.

Сёння Лена Пастэрнак запрасіла на вячэру а 18 гадзіне. Частавала рыбным супам, салатам і сырам двух

сартоў. Апрача марапрадуктаў у супе прысутнічалі яшчэ і клёцкі. За такой вячэрай п'юць ваду. Было белае і чырвонае віно. Лена арганізавала размову за сталом так, што кожны меў слова, чаго не атрымлівалася да гэтага. Заўтра ад'язджае Ёна. Мне яе будзе не хапаць.

З Юліяй Іваніцкай абмеркавалі верш Валерыя Папкова. Юля ўнесла свае прапановы. Ужо 22.20. У вокны барабаніць дождж, не прымусіў доўга чакаць. Скончыўся 15-ы дзень.

***31 кастрычніка 2019***

Пасля вечарынак сплю дрэнна. Эмоцыі. Зрабіла прагулку ўздоўж сцяны, дзе яшчэ не была. На зваротнай дарозе зайшла ў краму і купіла сабе некалькі строяў. Заехалі Тантас Балаканскас з Літвы, паэтка Margret Loa Jonsdottir з Ісландыі і Анне Сорман са Стакгольма. Швед-

скія пісьменнікі прыязджаюць на 5, 10 дзён.

*1 лістапада 2019*

Зрабіла дзве прагулкі. Атрымала вялікае задавальненне. Час бяжыць хутка. Прыехалі Барыс Пятровіч і Алесь Камоцкі. У творчым адпачынку яны тут упершыню, чым здзівілі мяне, асабліва Барыс Пятровіч. Пагаварылі.

Абмеркавалі з Юліяй Іваніцкай яе верш “33”. Чытала “Беларускую літаратуру і свет”.

*2 лістапада 2019*

З раніцы паціху імжыў дождж. Сходзіла да мора. Сёння яно незвычайна ціхае. Толькі зрэдку ўздыхне і кіне хвалю на бераг. Вецер-гарэза таксама адпачывае. Цешацца ля берага і здабываюць сабе ежу качкі,

гусі, лебедзі. Толькі хвосцікі тырчаць з вады. Лётаюць чайкі.

Зайшла да Алеся Камоцкага, каб даведацца, як яны пачуваюцца з Барысам Пятровічам. Алесь крыху прастудзіўся, кашляе. А так усё добра. Падарыў мне сваю кніжку "Забірай маё лета", выдадзеную ў 2017 годзе ў выдавецтве "Галіяфы" з дарчым надпісам: *"Тамары – шчыра і на добры ўспамін"*. Цікавая паэзія, адчуваецца, што аўтар мае філасофскую адукацыю.

Чацвёртага ад'язджае Катэрына ў Кіеў. І яе мне будзе не хапаць. Катэрына сонечны і шчыры чалавек. Сёння частавала нас налісьнікамі з тварагом і бульбаю. Быў сыр, чай, марозіва. Вечар прайшоў за размовамі – літаратурнымі і жаночымі. Для мяне было дзве перакладчыцы: Лена Пастэрнак і Катэрына. Нашыя мужчыны, а іх трое, адсутнічалі.

***3 лістапада 2019***

Сёння надвор'е такое ж, як і ўчора: ціха і цёпла. Быць каля мора – вялікае шчасце. Напісаўся вершык.

У другой палове дня – зноў дождж. І ўсё ж для такой пары года надвор'е, дзякуй Богу, адпачынку спрыяе. Чытала.

На развітанне Катэрына падарыла сваю кнігу з дарчым надпісам: *"Тамарі Аўсяннікавій. Ви теж були для мене Сонцем! З любов'ю Катерина Девдера. Вісбю, 03.11.2019"*.

***4 лістапада 2019***

Надвор'е зменлівае. Каля мора холадна, вецер. Прайшла кіламетраў шэсць, калі не больш. Пілі каву разам з Siri Katinka Valdez з Нарвегіі. Сядзелі за сталом на драўлянай канапе. Некалі такія канапы майстраваў і мой тата. Ён быў выдатным сталяром. Сіры прадэманстравала

свае веды рускай мовы. Пацікавілася беларускімі ветлівымі словамі і словам “poetry”.

Прыгатавала бульбу, засмажаную беконам з цыбуляю, салат, бутэрброды. Запрасіла Барыса Пятровіча, Алеся Камоцкага і Лену Пастэрнак на абед. Пілі гарбату, каву. Прыемна правялі час.

Павіншавала Юлію Іваніцкую з Днём нараджэння, 33 споўнілася. Ідуць званкі з Беларусі. Спатрэбілася. Завяршыла два вершыкі.

***5 лістапада 2019***

Холадна. Дождж, вецер. З раніцы не было электрычнасці. Нават гарбаты не змаглі выпіць. Чытала “Возвращение Русалки” Уладзіміра Рацэптара, ілюстрацыі Міхаіла Шамякіна. Шыкоўная кніга на рускай і

англійскай мовах пра трагедыю А.С. Пушкіна “Русалка”. Ул. Рацэптар даводзіць, што назвы ў Пушкіна не было (яе даў Жукоўскі), разглядае структуру “Русалкі” і сцвярджае, што твор завершаны. Ёсць фотаздымкі тэкстаў, напісаных рукой Пушкіна.

У “Baltic Centre” цудоўная бібліятэка.

Паглядзела альбом твораў Казіміра Малевіча (1879 – 1935), выдадзены ў Нью-Ёрку ў 1991 годзе. Мне пашчасціла наведаць выставу Малевіча ў Амстэрдаме. Арыгінал ад рэпрадукцыі адрозніваецца энергетыкай колеру.

Выбралася да мора ў 15 гадзін. Цёпла апранулася. Вецер моцны. Бераг пустынны. А мне весела-весела! Напісала вершык. Смешны атрымаўся. У 16 ужо цёмна. Сёння прайшла мала, каля чатырох кіла-

метраў. Але добра, што выбралася. Я люблю вецер, мяцеліцу – непагоду.

***6 лістапада 2019***

Схадзіла да мора. Сёння цяплей, чым учора, вецер меншы.

Варыла капусту. Частавала Агату Тереrek з Польшчы і Лінду Мау з Нарвегіі.

Чытала кніжку Навума Каржавіна (1925 – 2018) “В защиту банальных истин» (М.: Московская школа политических исследований, 2003. – 782 с.).  Мяне цікавяць разважанні аб паэзіі розных аўтараў. Я звяраю іх погляды са сваім адчуваненнем паэзіі ў цэлым і асобных твораў.

***7 лістапада 2019***

Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Цёпла. У Беларусі чатыры дні непрацоўныя. Святкуюць…

7 лістапада 1990 года не стала маёй матулі. Яна ніколі не бачыла мора, але была ў Кіеве і ў Мінску. Апошнія 17 гадоў жыла са мной у Магілёве. Свет пазнавала праз кнігі. Думаю, мамачка бачыць мяне і радуецца, што я тут, што маю хоць нейкія адносіны да літаратуры.

Гуляла каля мора, любавалася яго колерам, хвалямі і думала пра маму, пра тое, што ёй прыйшлося перажыць за 83 гады (1907—1990).

Павіншавала з Днём нараджэння Тоню Кавалеўскую. А Валянціна Мельнікава і Станіслава Крэпскага павіншую, як вярнуся.

Чытала Навума Каржавіна. Ён мяне захапіў. Вельмі цікава пра Бродскага: «Генезис “стиля опережающей гениальности” или миф о великом Бродском”. Я згодна з аўтарам наконт культу.

Чытаць цікава ўсё без выклю-

чэння: “Анна Ахматова и “серебряный век”, “Судьба Ярослава Смелякова”, “Над страницами жизни Петра Григоренко”, “Будни “тридцать седьмого года”, “А был ли Сталин-то? Очерки о психологическом развитии советского большевизма” і гэтак далей. Аўтар мае свой погляд на гістарычныя працэсы. Праз іх прызму разглядае лёсы людзей і пісьменнікаў .

### *8 лістапада 2019*

Чытала кнігу Уладзіміра Бандарэнкі “Дети 1937 года”. Пададзена дзесяць пісьменнікаў (Уладзімір Маканін, Валянцін Распуцін, Бэла Ахмадуліна, Уладзімір Гусеў, Андрэй Бітаў, Аляксандр Вампілаў, Вольга Фокіна, Генадзь Шпалікаў, Сяргей Авярынцаў, Эдуард Успенскі), якія нарадзіліся ў 1937 годзе, і дванаццаць (Уладзімір Высоцкі, Юрый

Каваль, Аляксандр Праханаў, Алег Чухонцаў, Валянцін Усцінаў, Леанід Барадзін, Людміла Петрушэўская, Ігар Шклярэўскі, Барыс Прымераў, Уладзіслаў Крапівін, Венедыкт Ерафееў, Барыс Якімаў), якія нарадзіліся ў 1938 годзе. Ва ўступным артыкуле “Легенда поколения” аўтар гаворыць, што гэтае пакаленне было “обречено” на міф. 1937 год – год масавых рэпрэсій і расстрэлаў. Шырока адзначаецца скрушны стогадовы юбілей з дня гібелі А.С. Пушкіна. Газеты пішуць пра вялікія будоўлі (дарэчы, у 1937 годзе Мандэльштам напісаў “Оду Сталіну”). Папанінцы высадзіліся на Паўночным полюсе. У Парыжы ўстаноўлена скульптура Веры Мухінай “Рабочы і калгасніца”. Выходзяць кнігі, фільмы. І – рост нараджальнасці (магчыма, у сувязі з забаронай абортаў). І ўсё ж. У такі крывавы год на свет з’явілася цэлая плеяда таленавітых пісьменнікаў.

Вячэралі разам – Сіры, Маргрэт, Агата і я – у сувязі з адʼездам Агаты.

***9 лістапада 2019***

Звычайны дзень. Сняданак. Дарога да мора. Пакупкі. Кава.

Працягвала чытаць кнігу Уладзіміра Бандарэнкі "Дети 1937 года". Асаблівую цікавасць выклікалі асобы Ігара Шклярэўскага, Вольгі Фокінай, Людмілы Петрушэўскай, Барыса Прымерава, Генадзя Шпалікава. Я зноў засяродзіла  ўвагу на лёсе Шпалікава, які эпаціраваў публіку, жартаваў са смерцю, чаго рабіць нельга. Яго першы студэнцкі сцэнар "Человек умер", пачынаўся з абвесткі: *"Деканат сценарного факультета с грустью сообщает, что на днях добровольно ушел из жизни Шпаликов Геннадий. Его тело лежит в большом просмотровом зале. Вход строго по студенче-*

*ским билетам. Доступ в 6 час., вынос цела в 7 часов. После выноса будет просмотр нового художественного фильма!!!»*.

Нягледзячы на тое, што Шпалікаў пісаў: «Я б добровольцем не мог //В небытие уйти», гэтае «добровольное небытие» для яго адбылося 1 лістапада 1974 года.

Есть у раздражения
Самовыражение.
Дверью – хлоп,
И пулю – в лоб.
Ах, как всем досадил!

***

Он лежит уже ничей
В ожидании речей.

***10 лістапада 2019***

Усю ноч і першую палову дня ішоў дождж. Працягвала чытаць кнігу “Дети 1937 года”. Пасля абеду

хадзіла да мора. Вецер моцны. Замёрзла.

Вечарам пазнаёмілася з маладым празаікам Барысам Панамаровым (31 год) з Калінінграда Прыехаў ноччу, грошы не ведаў дзе памяняць і цэлы дзень быў галодны (у выхадныя Лена і Патрык не працуюць). На кухню зайшоў нясмела. Вельмі ўзрадаваўся, калі я загаварыла па-руску. Я распавяла яму аб парадках на кухні. У нас тут ёсць прадукты для ўсіх. Кожны, хто ад'язджае, пакідае для агульнага карыстання. Барыс робіць ўражанне выхаванага, але крыху няўпэўненага ў сабе чалавека, ды не без амбіцый. Нежанаты. Жыве разам з мамаю. Прыгатаваць для сябе можа. Магчыма, рос ён без таты. Барыс піша раман.

Пачала чытаць "Вострую браму" Сяргея Дубаўца. Да ад'езду засталося пяць дзён.

***11 лістапада 2019***

Сцірку, што планавала з раніцы, прыйшлося перанесці, бо машыны пральныя занятыя.

Прагулка да мора была складанай. Што рабіць з нагамі, не ведаю: ці то абутак такі, ці дарогі, ці мае ногі нягеглыя.

Заехалі дзве пісьменніцы: Грэта Амбразайте з Літвы і Vici Theodora Poulou  з Грэцыі. Грэта па-руску гаворыць лепш, чым я па-ангельску. І Тантас аказваецца рускую мову ведае, зрабіўся гаваркім з прыездам Грэты, вясёлым. Заехаў з Фінляндыі Kaj Korkea-Aho. Яшчэ не бачыліся.

Вечарам паглядзела некалькі перадач пра Людмілу Петрушэўскую. Цікавая асоба.

***12 лістапада 2019***

З раніцы схадзіла да мора. Вецер

сціх і было добра. Каля берага сабралася многа птушак: качкі, лебедзі, гусі. Гусі не кожны дзень бываюць. Лебедзяў налічыла аж 17, да гэтага было 12. Сярод іх адзін малады лебедзь, бо яшчэ не белы, а карычневы.

Выпіла кавы. Настрой цудоўны. І нечакана, калі выходзіла з будынка, дзе месціцца кухня, аступілася і падвярнула правую нагу, ужо другі раз. Відаць, многа хаджу, надта актыўна адпачываю, вось арганізм і сігналізуе.

Паклала ў лядоўню бутэльку з вадою, каб холад прыкладваць да нагі. Грэта купіла эластычны бінт. Перабінтавала нагу. Паступова боль сцішыўся, але наступаць на нагу яшчэ балюча.

У 17.30 адбылася сустрэча з прадстаўнікамі з іншага міжнароднага Цэнтра, які таксама ў Вісбю.

Нас пазнаёмілі з турэцкім рэжысёрам. Ён доўга аб нечым гаварыў, адказваў на пытанні. Зразумелымі для мяне былі толькі імёны Таркоўскага і Бергмана. Для славян перакладу не было.

Потым прадставілі нашага Барыса Пятровіча. Ён распавёў аб справах Саюза беларускіх пісьменнікаў і вымушанай эміграцыі Быкава і Алексіевіч. Потым прачытаў два творы з кнігі “Жыць не страшна: фрэскі”, напісаныя рытмізаванай прозай (удакладніў, што гэтыя яго творы на Захадзе называюць паэзіяй), а Патрык Мускас прачытаў іх у перакладзе на шведскую. Гэта мяне ўразіла. Бо я ведала Барыса Пятровіча як празаіка, а тут – паэзія. Гэтай яго кнігі ў Беларусі ўжо няма, разышлася вельмі хутка.

Тантас артыстычна прачытаў на літоўскай мове сваю паэму, а Патрык – у перакладзе на шведскую.

Мелодыка літоўскай мовы таксама грунтуецца на зычных гуках.

Потым быў каронны шведскі суп з чачавіцаю і цыбуляю, салат, чырвонае віна. Піць я не навучылася, так што гэтая радасць мяне абышла. І – дзякуй Богу.

### *13 лістапада 2019*

Спала неспакойна. Заснула толькі пасля чатырох гадзін. Уставала цяжка. Ідзе дождж. Паснедала і пішу гэтыя радкі. Пухліна на назе паменшылася, але сасуды надта праявіліся. Перабінтавала. І вырашыла ўсё ж схадзіць да мора. О, як не хочацца мне з ім расставацца!

### *14 лістапада 2019*

З раніцы дождж, як звычайна. Устала позна. Разбіралася з "хвосцікамі" птушак, якія не давалі мне

спакою амаль увесь адпачынак. Знайшла для іх места ў невялікім вершыку. Настрой ужо дарожны.

Папрасіла ў Барыса Пятровіча яго кнігу “Жыць не страшна: фрэскі”, каб пачытаць. Кніга мае чатыры раздзелы. З першымі двума я пазнаёмілася тут, у Цэнтры, па кнізе “Шчасце быць...”. Таму чытала два другія. Творы названы фрэскамі, бо пісаліся ў адзін прысест і не правіліся потым. У першых трох раздзелах яны блізкія да вершаў у прозе. Барыс Пятровіч добры лірык.

***15 лістапада 2019***

Заснула пасля трох. “Жыць не страшна: фрэскі” чытала. У 4-ым раздзеле ўжо верлібры. І графічна запісаны як вершы. Вось адзін з іх.

*****але**
трое вачэй сочыць за мною
і ў кожным воку

па тры зрэнкі
адное вока бачыць мяне ўдзень
другое ноччу,
а трэцяе – заўсёды

трое вушэй ловіць
кожнае маё слова
першае вуха ўдзень
другое – ноччу,
а трэцяе – заўсёды

ужо сорак гадоў я не сплю
сорак гадоў я не выходжу з дому
не пішу, не размаўляю, не рухаюся
ужо сорак гадоў, як я памёр

але

кожны дзень, кожную хвілю
трое вачэй сочыць за мною
трое вушэй
прыслухоўваецца да мяне

Сёння надвор’е паспрыяла развi-

тацца з морам. Нават сонца кінула свой позірк на востраў. Лена Пастэрнак заказала мне таксі на заўтра на 10.20.

Збіраюся ў саўну. Потым буду ўкладваць куфар.

Укладвала, перакладвала некалькі разоў. Усе раз’ехаліся, новыя на вочы не паказваліся. Я развіталася з Сіры. Яна мяне здзівіла тым, што ў фэйсбуку напісала: *“Тамара, дзякуй за суп, жадаю бяспечнай дарогі дадому”*.

***17 лістапада 2019***

Вось і дома. Мяне правялі Барыс Пятровіч і Алесь Камоцкі. У Стакгольме сядзела не так доўга, як па дарозе на Готланд. У аэрапорце пазнаёмілася з пасажыркай Лідзіяй. Яна ляцела ад унучкі, якая жыве ў Швецыі, праз Мінск у Алма-Ату. Лідзія майго ўзросту. І мы з пры-

емнасцю бавілі час, успаміналі наша жыццё ў СССР.

У Мінску мяне чакала таксі, так што дабралася да Магілёва хутка.

***7 чэрвеня 2020***

Перачытала свой дзённік і вырашыла захаваць. Ён адзіны. У пэўныя гады пачынала пісаць, але не хапала цярпення працягваць.

Я вельмі ўдзячна Саюзу беларускіх пісьменнікаў за магчымасць наведаць Готланд, Балтыйскі Цэнтр пісьменнікаў і перакладчыкаў у Вісбю, дзе добра адпачываецца і працуецца, дзе сумоўе з прыродаю наталяе сэрца і душу. А непасрэдныя зносіны з пісьменнікамі іншых краін пашыраюць кругагляд. І бачыць — гэта значна лепш, чым толькі чуць. Неспадзяваны падарунак атрымала.



Корпус “Baltic Centre”



Памяшканне “Baltic Centre”



Кафедральны сабор святой Марыі



Гарадская сцяна



Барыс Пятровіч, Барыс Панамароў, гаспадыня Цэнтра Лена Пастэрнак і Тамара Аўсяннікава



Т. Аўсяннікава, Катэрына Дэўдэра, Siri Valdez, Jonë Ramnytë, Henrik Andersen, Agata Teperek



Прагулка ўздоўж мора і сцяны

# ЛІСТ КАТЭРЫНЕ ДЭЎДЭРА

Дарагая Катэрына! Дзякуй табе за шчырасць, за сонечнасць.

Прачытала тваю кніжку “Листи до Майстра» з задавальненнем. Звычайна вершы я чытаю ўголас. Так можна смакаваць кожнае слова. Былі моманты, калі перацінала дыханне, і я чытаць не магла. Такі стан чытача гаворыць, што яго сэрца адгукаецца на сэрца і думкі аўтара.

Многія заключныя радкі ў вершах моцныя, як і патрабуе таго паэзія. Напрыклад: “Осінь. Невпинно віршами кровоточить/ тіло моэ / без шкіри”, “Чорні-чорні вітри білосніжне вітрило рвуть, / але я капітан / і тримаэться мій вітрильник”, “Ти такий красивий аж боляче”, “І прагла / бачу під каменем – / джерело”, “Вірити, хай наівно, що я не скривджу ніколи / хлопчика, що в тобі світиться”, “В

день, коли я відійду, / мій Бог / скаже: “Ти була найліпшою / Пташкою”, ”Мої вірші стали минулим. / Я порожня, мій Майстре. А, може, просто / бездонна”.

У тваіх вершах многа цудоўных радкоў, якія можна лічыць знаходкамі. Словы ўсім вядомыя, а вось парадак слоў знаходзіць аўтар і ператварае іх ў паэзію. Твая кніга – не толькі лісты да Майстра, не толькі пра каханне, яна намнога глыбейшая. Лісты – форма, каб знайсці сябе, зразумець пачуцці, якія авалодалі ўсёй істотаю без астатку. Ты не хаваешся за лірычным героем, шчыра кажаш, што гісторыя рэальная. Але ж свядома ці падсвядома ты шукаеш прычыну сваёй няўпэненасці, недасканаласці, як табе здаецца. Аб гэтым яскрава гавораць вершы “Стриманість” (Частка І, с.16,17) і “У моэму роду жінки були різними...” (частка ІІ, с. 66, 67). Менавіта адчуванне

сваіх гістарычных каранёў робіць кнігу цэльнай. І ты – творца новага часу, які адкрыты свету.

Добры не толькі змест, але і афармленне. Карціна Марыі Лытвын стала завяршальнай кропкай кніжкі. Мне радасна было чытаць пасляслоўе. Ты разумееш, што робіш. Самыя важныя словы ў ім: "Я не ставила собі за ціль змайструвати книжку про любов. Ця книжка створала мене".

Ты – "Майстриня", Катэрына, і не сумнявайся.

З вялікай павагай да цябе і твайго таленту Тамара Аўсяннікава (Краўчанка) з Магілёва (Беларусь).

22.10.2019. Вісбю, БЦПП.



Лесвіца на 70 прыступак

*****

У Вісбю няма мітусні
І людзі натоўпам не ходзяць.
Сярэдніх вякоў галасы
Ад муру сцяны сыходзяць.

Сем дзён я на востраве Готланд,
Усё – як хацелася мне:
І мора, і восені фарбы,
Не веру вачам, нібы ў сне.

Жыву на зямлі гістарычнай –
У вечнасці
гул гарматны...
Тут нельга крычаць істэрычна,
Тут ціша высокага гарту.

24.10.2019

*****

Запаведны куток – востраў Готланд,
Шлях з варагаў у грэкі тут быў.
Месца зручнае – Мекка пад Богам.
На яго кожны варвар
зубы вастрыў.

Вісбю – самы прывабны кавалак,
Ні аб'ехаць яго, ні прайсці.
Наўгародцы ў Вісбю бывалі,
Тут царкву, рускі двор узвялі.

Уздоўж мора маўклівыя дзоты
На турыстаў глядзяць сурова
Пустымі вачніцамі готаў,
Сярэдніх вякоў
невымоўным словам.

27, 28.10.2019

*****

Сёння вецер парушыў ідылію:
Уварваўся на востраў піратам
І абрушыўся гнеўна ліўнем,
Каб па-добраму неслі злата.

Пераблытаў Вятрыска стагоддзі –
Тут жывуць не купцы, не мянялы.
Адпачыць можа кожны ў лагодзе,
У турыстаў здзяйсняюцца мары.

Вось на вуліцу выйшла дзяўчына,
Захінаецца ў мокры каўнер.
І Вятрыска спыняецца. Дзіўна –
Як нясмела Ён поруч ідзе.

І зрабіўся такім лагодным,
Дзе падзеліся моц Яго, гнеў?!
На хлапчыну Вятрыска падобны –
Закахаўся, прапаў неўспадзеў.

26.10.2019

*****

Ветер авалодаў горадам,
кожнай вулачкай,
кожнай шчылінай.
Паводзіў сябе груба,
нахабна,
не зважаючы на ўзрост.
Ён ірваў дрэвы, кусты,
адзенне мінакоў,
але ніхто яму не пярэчыў,
не супраціўляўся,
бо гэта не мела сэнсу.

26.10.2019

*****

Што ты, Неба, горка плачаш,
Што ты, мілае, няўцешна,
Хто пакрыўдзіў? Плакаць годзе:
Гора прыйдзе – гора пройдзе.

27.10.2019

*****

Ах, якое надвор’е ціхае!
Ах, спагада для сэрца якая!
Сёння мора спакойна дыхае,
Вецер-гарэза адпачывае.

Зрэдку мора ўсхліпне трывожна –
Штосьці ўспомніла, ці мо прысніла.
Мне ўзгадалася поле, і пожня,
І палоска нязжатая нівы.

Я не думаю, што настальгія
Пачынае душу трывожыць.
Проста ўсё, што мне міла,
На дзіцячы ўспамін памножана.

Добра тут, але жыць не хацела б,
Да свайго прывыкаць не трэба,
У Радзіму ўрасла, прыкіпела,
Як трава, як дрэва.

02.11.2019

*****

Шчасна там, дзе нас няма,
Бо бываем толькі госцем.
Ёсць усюды жарсць, мана,
Але ж любім перамыць косці.

Цесна стала за сцяной,
Хочацца на волю.
Ужо сніўся мне сувой,
Значыць – у дарогу.

Буду помніць востраў готаў,
Буду ўспамінаці,
Як жылося бесклапотна,
Бы ў гасцях у маці.

03.11.2019

*****

Люблю адзіноту і вершы,
Мора люблю і горы,
А яшчэ я люблю неба,
Як сваіх родных.

З імі радасць дзялю, нягоды,
За парадай да іх іду –
У любую пару года
Паразуменне знайду.

04.11.2019

*****

Я чакала сыночка,
а нарадзілася дачушка:
маленькая, прыгожанькая,
з ільнянымі валосікамі.
Скура беленькая, празрыстая –
такая сонца баіцца.
Тварык кругленькі, як поўня,
вочкі цікаўныя, колеру неба.
Роцік – бяззубы.
І калі смяялася,
то была падобна на дэльфіна.
Мы яе так і называлі:
"Наш дэльфінчык".
А як дачушка вырасла,
то нарадзіла сыночка,
падобнага на сябе
як дзве кроплі вады.

29.10.2019

*****

Была дзяўчынка ценькай, цыбатай.
Рот вялікі, губы пухлыя.
І здавалася яна ўсім непрыгожаю,
І сама лічыла сябе непрыгожаю.
Не смяялася,
каб рот выглядаў маленькім.
Час ішоў...
Дзяўчынка ў нявесты ўвабралася.
Аднойчы села яна перад люстэркам
і насуперак усяму свету і сабе
засмяялася так, як не смяялася ніколі.
Ды раптам застыла ў здзіўленні:
З люстэрка глядзела
не шэрая качка, а белы лебедзь.
З таго дня ўсе сталі зайзросціць
яе   прыгажосці.

29.10.2019

*****

Ветру насустрач іду – змагаюся.
Ад абдымкаў яго – адбіваюся.
Як пушынку мяне падхапіў
І – панёс па-над морам…
Ледзьве ў моры мяне не ўтапіў,
Было б гора, ой гора.
На зямлю асцярожна паставіў
І сказаў строга: “Ідзі ты, старая,
Дадому, да свайго старога”.

05.11.2019

*****

Цемра апусцілася на зямлю.
Ні душы не відаць. І крокаў не чутна.
Толькі ціхая музыка мора.
Нечакана вада ўскалыхнулася,
і на бераг выходзіць высокі,
з рыжаю барадою мужчына.
Слоў яго разабраць не магу,
толькі дзіўлюся – што трэба?
Ён блудліва павёў вачыма,
і на лысіне паказаліся рожкі.
Запрыкмеціўшы,
куды скіраваны мой позірк,
істота крутнулася на тоўшчы вады
і – знікла, як і не было.
Я прачнулася.

08.11.2019

*****

Ногі мае, ножанькі,
А што ж мне рабіці?
А чаму ж не хочаце
Вы лёгка хадзіці?

А бывала ўрэмечка –
Птушкаю лятала,
На прыступцы першай
Да Бога стаяла.

Я для вас абутку
Не магу прыдбаці,
Што ж вы прымушаеце
Сядзець босай ў хаце.

11.11.2019

*****

Доля Долі мне не доліла,
А я Долю перадоліла.
Доля долі не дала,
Я сама яе ўзяла.

А я Долю не кляну,
А я Долечку люблю.
Адпусціла Доля сэрца
І цяпер са мной смяецца.

12.11.2019

*****

Птушкі жыруюць
ля берага мора
^
с ц
о і
в к
х і
пікі
ў неба нацэлены
лебедзі качкі гусі
Сэльміны

14.11.2019

# ЗМЕСТ

